Паданні створаны **Б. Уілінгхэмам**

# FABLES

Пераклад
на беларускую мову:
**Артур Барадачоў**

Афармленне:
**Сяргей**
**Козыраў**

# 4






























Глава чацвёртая. Марш драўляных салдатаў



# Наша версія другой папраўкі

BILL WILLINGHAM writer/creator
MARK BUCKINGHAM penciller
STEVE LEIALOHA inker
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN lettering
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER assistant editor
SHELLY BOND editor

КАЛІ ЯНА АДЧЫНЯЕЦЦА, БРАТЫ?

ПРАЗ ПАРУ ХВІЛІН.

THREE FLOORS OF GUNS!

У МЯНЕ **ВЕЛІЗАРНЫЯ** ЧАКАННІ, БРАТЫ... ХОЦЬ Я І ЖАДАЎ БЫ ВЯРНУЦЦА НА СКЛАД ЗА НОВАЙ **НАГОЙ**, ПЕРШ ЧЫМ ПРЫЙСЦІ СЮДЫ.

BIGGEST GUN STORE IN BROOKLYN

BIG NED'S DISCOUNT GUNS SINCE 1968

СПРАВА Ў ЭКАНОМІІ ВЫСІЛКАЎ, БРАТ. НАМ УСЁ РОЎНА НЕСЦІ ЗДАБЫЧУ НА СКЛАД, ДЫК НАВОШТА ІСЦІ **ДВОЙЧЫ**?

ТВАЕ МЕРКАВАННІ **БЕЗЗАГАННЫЯ**, БРАТ, ЯК І ЗАЎСЁДЫ.


НАРЭШЦЕ.
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, СПАДАРЫ. ВЫ ВЕЛЬМІ РАНА.
КАЖУЦЬ, ХТО РАНА ЎСТАЕ, ТАМУ БОГ ПАДАЕ.


АДНАК ЗАКЛІКАЮ ВАС НЕ ЎСПРЫМАЦЬ МОЙ АФАРЫЗМ ЯК ПРОСЬБУ **МІЛАСТЫНІ**.
МЕНАВІТА. БУДЗЬЦЕ ЛАСКАВЫ ТЛУМАЧЫЦЬ ЯГО ТОЛЬКІ ЯК **МЕТАФАРУ**.

MORE GUNS UPSTAIRS
ЭМ... БЕЗУМОЎНА. ХМ... ЧЫМ Я МАГУ ВАМ **ДАПАМАГЧЫ**?
МЫ ЖАДАЕМ КУПІЦЬ **ЗБРОЮ**.
ДАКЛАДНА. НАС ПЕРАПАЎНЯЕ ЗАПАЛ.


ЗРАЗУМЕЎ. ВЫ ЗВЯРНУЛІСЯ НА ТОЙ **АДРАС**. ЯКАЯ ЗБРОЯ ВАМ ПАТРЭБНА?
ПА АДНЫМ АСОБНІКУ КОЖНАГА ТЫПУ.
MARCH 19 Tuesday

Вудлэнд.
Нью-Ёрк.
Як бачыце, у аднаго з іх была драўляная нага.
YELLOW ROADHO
MARKET
Я яе ўзяў, таму што спадзяваюся забіць іх ёй **да смерці**.
Але яны ўцяклі.
І дзе ж **падвох**? А, Джэк?
Ты пра што?
Я ня веру, што цябе абрабавалі. Ты штосьці **задумаў**, а ў мяне мала часу.
Ды не! Ты на мяне **паглядзі**!
Ня ў **гэты раз**!
Ты хлусіш, таму што ты хлусіш **заўсёды**.


ДЖЭК, ТЫ ЧУЎ ГІСТОРЫЮ ПРА ХЛОПЧЫКА, ЯКІ КРЫЧАЎ «ВОЎК!»?
ЗРАЗУМЕЛА, СНЕЖКА. ЁН НА СЁМЫМ ПАВЕРСЕ ЖЫВЕ. А ШТО?

НЯВАЖНА.

МЯНЕ ЧАКАЕ ТАКСІ. Я ПАЙШОЎ.
ЯНЫ БЫЛІ **КАЗАЧНЫМІ**, БОЗЛІ! НОВЫМІ КАЗАЧНЫМІ Ў ФЭЙБЛТАЎНЕ!

З ЧАГО Б?
ІНАКШ ЯНЫ Б НЕ ПЕРАЖЫЛІ ПАБОІ, ЯКІЯ Я ІМ НАНЁС.

ЗРАЗУМЕЛА, ДЖЭК, ТЫ БЕЗУМОЎНА ЗАТЫКНУЎ ІХ ЗА ПОЯС.


BIGGEST GUN STORE IN BROOKLYN
BIG NED'S DISCOUNT GUNS
SINCE 1968
GUNS GUNS GUNS
КОЛЬКІ ВІДАЎ ЗБРОІ СТВАРЫЛІ МЯСАГАЛОВЫЯ?


ТЫСЯЧЫ.
А ТО І СОТНІ ТЫСЯЧ.
ГЭТА ДУР ЗА НЯБЫТНАСЦЮ ДАВЕРУ.


НЯЎЖО ІСНУЕ СТОЛЬКІ РОЗНЫХ ВІДАЎ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІХ МОЖНА ЗАБІЦЬ?
ШТО НАКОНТ БОМБ? ДЗЕ НАМ ІХ УЗЯЦЬ?


ЯНЫ ПРАДАЮЦЦА ТУТ ЦІ МОЖНА ЗНАЙСЦІ ІНШУЮ КРАМУ?
Я НЕ...


У НАС КАНЧАЕЦЦА ЧАС, БРАТЫ. ТРЭБА ЎЗЯЦЬ УСЁ І СЫХОДЗІЦЬ.
О, ВЫ НЯ МОЖАЦЕ ЗАБРАЦЬ ГЭТА СЁННЯ, СПАДАРЫ.
MARCH 19 Tuesday













ЗБІРАЙЦЕ ЗБРОЮ, БРАТЫ.

ВЫ **НЯ МОЖАЦЕ!**


ЗАГАДЫ?
ЗАГАДЫ АД **ТУШЫ**?
НЕВЕРАГОДНА!
ЖУДАСНА!


УЖЫВАННЕ **ВЫПРАЎЛЕНЧЫХ МЕР** БАЧЫЦЦА ДАРЭЧНЫМ, БРАТЫ.
НЯ МАЮ ПЫТАННЯЎ, БРАТЫ.


GUNS GUNS GUNS
TAXI


*Паважаныя мясагаловыя,*
*Мы разумеем, што знаходзімся на зямлі дзікуноў і грубіянаў, але з гэтага моманту патрабуем праяўлення добрых манер да сваіх заступнікаў.*
*Х'ю, Дрю і Лу.*


ГЭТЫ ПАГАНЕЦ ПАСТУШОК ЗНОЎ ІГРАЕ!


ЧАМУ ЁН ЗАЎСЁДЫ ІГРАЕ ТАКІЯ АГІДНЫЯ МЕЛОДЫІ?
І ЧАМУ Ў **ГРАМАДСКІМ МЕСЦЫ**? ВЫ ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІЦЕ, ЯК ЁН УПЛЫВАЕ НА ШЧАСЛІВЫХ, ДОБРАПРЫСТОЙНЫХ ГРАМАДЗЯН!
ТРЭБА ПРЫДУМАЦЬ ЗАКОНЫ СУПРАЦЬ ГЭТАГА. ВОСЬ Я ВАЗЬМУ І ПАЙДУ ПРАМА Ў ОФІС ДА МЭРА І...
У ЯГО БЫЛІ **НЯ САМЫЯ** ЛЕПШЫЯ ДНІ, МІСІС ПАВУЦІНА.
ХАЙ АДАСОБІЦЦА.
ЦАНОЙ **НАШАГА** ЎЛАСНАГА СУПАКОЮ І ЦІШЫНІ?
FABLES


СУНІМІСЯ ТЫ, **ПАКУТНІК**.
ТАМ УЖО НАРОД НА СЦЕНКУ ЛЕЗЕ. МАБЫЦЬ, ПАШКАДУЕШ НАС, ПЕРШ ЧЫМ МЫ ВОЗЬМЕМ БРЫТВЫ І ВЫКРЫЕМ ВЕНЫ?
ТАКТОЎНЕЕ, ПІНОКІА.

ДОБРА.
Я СКОНЧУ.
У ЦЯБЕ ЁСЦЬ МЫ, ПРЫЯЦЕЛЬ. ШТО НАМ ЗРАБІЦЬ, КАБ УЗБАДЗЁРЫЦЬ ЦЯБЕ?
НІЧОГА.
ДАВАЙ ЗГАНЯЕМ У КРАМУ КОМІКСАЎ?
НЕ, ДЗЯКУЙ.
У КАНДЫТАРСКУЮ? МЫ ЧАСТУЕМ.
РАЗБІТАЕ СЭРЦА ЛЕЧАЦЬ НЯ ТАК, МУХАЛОЎ.
ЁСЦЬ ТОЛЬКІ АДЗІН ПЭЎНЫ СРОДАК.
САМАДАЙКІ.
МЫ ЧАСТУЕМ.
ЯК ЯНА МАГЛА АДПРЭЧЫЦЦА АД МЯНЕ, НАВАТ НЯ ДАЎШЫ **МАГЧЫМАСЦЬ** РАСТЛУМАЧЫЦЦА?
ХТО Ж ВЕДАЕ ЎСЕ ЗАГАДКІ ЖАНОЧАГА СЭРЦА?
МЫ Ж ЖАДАЛІ ЯГО ЎЗБАДЗЁРЫЦЬ, МУХ. КАЛІ ТЫ БУДЗЕШ ТАК КАЗАЦЬ, ЁН ЗНОЎ ПАЧНЕ ДУНДЗІЦЬ СВАЕ **ТУЖЛІВЫЯ ПЕСНІ**.
А МНЕ ЯГО МУЗЫКА ЗДАВАЛАСЯ ПРЫЕМНАЙ.


КАПЯЛЮШЫК!
МНЕ ТРЭБА ПАПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ Ў ЦЯБЕ, ПАСТУШОК. Я НЯ МЕЛА НІЯКАГА ЎЯЎЛЕННЯ, ШТО ТЫ ПЕРАЖЫЎ БІТВУ НА КРАІ СВЕТУ.
УБАЧЫЦЬ ЦЯБЕ БЫЛО БЫЦЦАМ УБАЧЫЦЬ ПРЫВІД.

Я БЫЛА Ў ШОКУ І ЗАПАНІКАВАЛА. ТЫ ПРАБАЧЫШ МЯНЕ ЗА МАЁ ГЛУПСТВА?
ЦІ ПРАБАЧУ Я ЦЯБЕ?
НІ ЗА ШТО!
НУ, Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, НЯМА ЗА ШТО ПРАБАЧАЦЬ.

ТЫ НІЧОГА ТАКОГА НЕ ЗРАБІЛА. ТЫ...
ВОСЬ ЛАЙНО, Я ЗАГАВОРВАЮСЯ.
УСЁ НАРМАЛЬНА.

ПРОСТА Я ЖАДАЎ СКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ МІЛАЯ І ВЫДАТНАЯ, І ШТО **ТЫ МНЕ ПАДАБАЕШСЯ**.
Я Б ВЕЛЬМІ ЖАДАЛА, КАБ ГЭТА БЫЛО ПРАЎДАЙ...

АДБЫЛОСЯ ШМАТ УСЯГО. ШМАТ ГАДОЎ ПРАЙШЛО З ТАГО ЧАСУ, ЯК МЫ...
Я НЯ ТАЯ ДЗЯЎЧЫНА, ЯКУЮ ТЫ НЕКАЛІ КАХАЎ.



ГЭТА НЕМАГЧЫМА. МЫ НЕ СТАРЭЕМ. ЗНАЧЫЦЬ НАША КАХАННЕ ТАКСАМА.
КАЛІ ЛАСКА, ЗАБЕЙЦЕ МЯНЕ, А ТО Я ПАТАНУ Ў ГЭТЫМ ПРЫКРЫМ ЛАЙНЕ.


ЗАБІ ЗЯПУ, ПІНОКІА, ТЫ САП-СУЕШ МОМАНТ.
ШТО?


ЯК ЁН ЦЯБЕ НАЗВАЎ?
ПРАБАЧ, Я НЕ ПРАДСТАВІЎ СВАІХ СЯБРОЎ.
ГЭТА МУХАЛОЎ... ТАКСАМА ВЯДОМЫ ЯК ЖАБІНЫ ПРЫНЦ.


РАДЫ НАШАЙ СУСТРЭЧЫ, МЭМ.
А ГЭТА МОЙ СУСЕД, ПІНОКІА.
НА ТАБЕ ТВАРУ НЯМА. МЫ ЗНАЁМЫ? ЦІ Ў МЯНЕ КАЗЮЛЬКА ТЫРЧЫЦЬ, ЦІ ШТО?


НЕ, НІЧОГА ТАКОГА.
МЫ НЕ СУСТРАКАЛІСЯ, АЛЕ Я ПРА ЦЯБЕ ЧУЛА.

ЯК ТАК? Я РОДАМ З МАЛЕНЬКАГА МЯСТЭЧКА Ў МАЛЕНЬКІМ КАРАЛЕЎСТВЕ, У АДНЫМ З САМЫХ БЕДНЫХ І НЕПРЫКМЕТНЫХ НАШЫХ СТАРЫХ СВЕТАЎ.

І ЎСЁ Ж, ЦЯБЕ ЛІЧАЦЬ ЛЕГЕНДАЙ СЯРОД...

КАЛІ ТЫ ВЕДАЕШ ПРА МЯНЕ, МАБЫЦЬ, ТЫ ЧУЛА ПРА МАЙГО БАЦЬКУ?

НАКОЛЬКІ Я ВЕДАЮ, ЁН НЯ ВЫБРАЎСЯ З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ.

ПАВЕРЫЦЬ НЕ МАГУ, ШТО БАЧУ ЦЯБЕ... **УЖЫВУЮ**.

КАЛІ ВЫ ЖАДАЕЦЕ АДАСОБІЦЦА...

ПРАБАЧ, ПАСТУШОК. МНЕ ТАК ШМАТ ТРЭБА ТАБЕ ПАВЕДАМІЦЬ. МЫ МОЖАМ ДЗЕ-НЕБУДЗЬ ПАГУТАРЫЦЬ **САМ-НАСАМ**?

БЕЗУМОЎНА, ПАДНІМЕМСЯ Ў МОЙ...

НЯ ТУТ. ЗАШМАТ ПЕРАШКОД.

ПОЙДЗЕМ ТУДЫ, ДЗЕ Я ЎЧОРА ПАСЯЛІЛАСЯ.

ЭМ... ДОБРА.


ДЗІЎНАЯ ДЗЯЎЧЫНА.
О, ГЛЯДЗІ.


ПАСТУШОК ЗАБЫЎСЯ СВОЙ ГОРАН.


ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО.
ПАСТУШОК НІКОЛІ **НІКУДЫ** НЯ ХОДЗІЦЬ БЕЗ СВАЙГО ГОРАНА!


ГЛЯДЗІ, ЁН **ПАГНУЎСЯ**.
ДУРНЫ ЗНАК.


ЛІЧЫШ, ГЭТА ДУРНОЕ ПРАДВЕСЦЕ?
МАБЫЦЬ. Я ДАКЛАДНА ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО З ГЭТАЙ ЖАНЧЫНАЙ **ШТОСЬЦІ НЯ ТАК**.


ДОБРЫ ВЕЧАР, СПАДАР МЭР.


ЦІ ДОБРА ВЫ ПААБЕДАЛІ Ў ЗВЫЧАЙНЫХ?
ПРЫМАЛЬНА, ДЖОН. ПРЫМАЛЬНА.


PRINCE CHARMING for MAYOR
A MAN FOR ALL FABLES


!
PRINCE CHARMING for MAYOR
A MAN FOR ALL FABLES


ГРЫМБЛ!
ЗДЫМІ... ГЭТУ... АГІДУ... ЗАРАЗ ЖА!
PRINCE CHARMING for MAYOR


ЛОРД ПАЧВАРА, ЛЭДЗІ ПРЫГАЖУНЯ, МНЕ ВЕЛЬМІ ПАДАБАЕЦЦА, ЯК ВЫ ТУТ УСЁ АБСТАЛЯВАЛІ.
УТУЛЬНА.
НУ, ТУТ ЦЕСНА.
МЫ ДАЗВОЛІЛІ САБЕ ГЭТА НА АБЕДЗВЕ НАШЫ ЗАРПЛАТЫ.
ХУТКА ЎСЁ ЗМЕНІЦЦА.
ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, МІСТЭР ВЫДАТНЫ?
ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ, ДАРАЖЭНЬКІ. ПАМЯТАЕШ, ЁН ЖА ВЯРНУЎ САБЕ ТЫТУЛ.


ПРАШУ, ВАША ВЫСОКАСЦЬ, СЯДАЙЦЕ. ВАМ ПАДАБАЕЦЦА КАВА? МАБЫЦЬ, ДАДАЦЬ ВЯРШКОЎ ЦІ ЦУКРУ?
УСЁ ВЫДАТНА.
ДЫК, ПРА ШТО Я КАЗАЎ...


ШТОСЬЦІ ПРА НАШУ ЗАРПЛАТУ.
ДАКЛАДНА. ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ, АЛЕ Я НЯ ПАМЯТАЮ, ДЗЕ ВЫ ЗАРАЗ ПРАЦУЕЦЕ...


Я ЗАЙМАЮСЯ АБСЛУГОЎВАННЕМ... КАЦЕЛЬНЯЎ І ІНШАГА... У БУДЫНКАХ ФЭЙБЛТАЎНА.
Я ПРАДАВЕЦ У «КНІГАХ НОДА».
ЗРАЗУМЕЎ.


Я ТУТ, КАБ ПРАПАНАВАЦЬ ВАМ НОВЫЯ МЕСЦЫ ДЛЯ ПРАЦЫ, ЯКІЯ, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ЗНАЧНА ПАВЯЛІЧАЦЬ ВАШЫ СУЧАНЫЯ ДАХОДЫ.
МЫ СЛУХАЕМ.


ТАДЫ ДА СПРАВЫ.
ПРАЗ МЕСЯЦ Я СТАНУ МЭРАМ ФЭЙБЛТАЎНА.


МАГЧЫМА.
УЖО ДАКЛАДНА. ВЫБАРЫ - ГЭТА ПРОСТА РАМАН З **СУПОЛКАЙ,** А НЕ З АДНОЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ ЯК АБ'ЕКТАМ ДАГАДЖАННЯ.


А Я **ЗАЎСЁДЫ** ДАБІВАЮСЯ АБ'ЕКТАЎ ДАГАДЖАННЯ.
НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ БЕЛАСНЕЖКА ПАКІНЕ ПАСАДУ НАМЕСНІКА МЭРА. ЯНА НЯ СТАНЕ ПРАЦАВАЦЬ СА МНОЙ, АЛЕ Я ЯЕ НЕ АБВІНАВАЧВАЮ.


ХУТКА ПАСЛЯ ГЭТАГА, БОЗЛІ ПАКІНЕ ПАСАДУ ШЭРЫФА, ПРЫКЛАДНА ПА ТЫМ ЖА ПРЫЧЫНАМ. ГЭТЫЯ ДЗВЕ ПАСАДЫ **ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНЫЯ** ДЛЯ БЯСПЕСПЕКІ І ДАБРАБЫТУ НАША НЕВЯЛІКАЙ СУПОЛЦЫ.
ЯНЫ НЯ МОГУЦЬ ПУСТАВАЦЬ, ЦІ БЫЦЬ БЯЗГЛУЗДНА ЗАБІТЫМІ.


ВОСЬ Я І ПРАПАНУЮ ГЭТУ ПРАЦУ ВАМ... ШЭРЫФ І ГАЛОЎНЫ АДМІНІСТРАТАР.
Я ЧАКАЮ АДКАЗ, ЯК МАГА ХУТЧЭЙ... КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНЫМ, ЗАРАЗ.

ТЫ ЎЧОРА СПАЛА ТУТ?
ЧЫЁ ГЭТА МЕЦА? ЯК ТЫ ЎВОГУЛЕ ЯГО **ЗНАЙШЛА**?
ДОЎГАЯ ГІСТОРЫЯ. Я ХУТКА ТАБЕ ЎСЁ РАСКАЖУ.


СПАЧАТКУ Я Б ЖАДАЛА ПАГАВАРЫЦЬ ПРА БОЗЛІ ВАЎКА. ЁН МЯНЕ ПАДАЗРАЕ.
ГЭТА ТАК, АЛЕ Ж ГЭТА ЯГО **ПРАЦА**, ЁН ПАДАЗРАЕ КОЖНАГА НОВАПРЫБЫЛАГА.


У МАІМ ВЫПАДКУ ЎСЁ ІНАКШ. Я Ж КАЗАЛА, ШТО ЁН ЗРАБІЎ СА МНОЙ... І МАЁЙ СЯМ'ЁЙ... ПАМЯТАЕШ?
ТАК, КОЖНАЕ СЛОВА. АЛЕ ГЭТА БЫЛО ДА АМНІСТЫІ.
І ТАМУ ТЫ ЯГО ПРАБАЧЫЎ? **ЯК ТЫ МОГ**?

«А ШТО? ЁН ПАПАКУТАВАЎ ЗА ЎСЕ СВАЕ ЗЛАЧЫНСТВЫ. ВЫ РАЗРЭЗАЛІ ЯМУ ЧЭРАВА, НАБІЛІ КАМЯНЯМІ, ЗАШЫЛІ... І КІНУЛІ ТАНУЦЬ У ВОЗЕРА.»













ТЫ БЫЛА НЯВОЛЬНІЦАЙ ВОРАГА НА СОТНІ ГАДОЎ ДАЎЖЭЙ КОЖНАГА З НАС, ТАМУ ПАТРАБУЕЦЦА ДАСТАТКОВА ЧАСУ, КАБ АТРЫМАЦЬ УСЮ ІНФАРМАЦЫЮ.
У ГЭТЫМ ТЫ МНЕ І ДАПАМОЖАШ.


УСЁ БУДЗЕ ПРАСЦЕЙ, КАЛІ Я БУДУ ВЕДАЦЬ БОЛЬШ ПРА ТОЕ, ШТО МЯНЕ **ЧАКАЕ**.
РАСКАЖЫ МНЕ ПРА ФЕРМУ. ХТО ТАМ ЖЫВЕ? ЯКІЯ Ў ВАС ЁСЦЬ МАГІЧНЫЯ АРТЭФАКТЫ І ДЗЕ ВЫ ІХ ЗАХОЎВАЕЦЕ? МНЕ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО БОЛЬШАЯ ЧАСТКА ЗАХОЎВАЕЦЦА Ў ОФІСЕ.


АЛЕ...
КОЛЬКІ ВЯДЗЬМАРАК, ВЕДЗЬМАКОЎ І ЗНАХАРОЎ У ВАС – У **НАС** ЁСЦЬ?
КАПЯЛЮШЫК, ТАБЕ НЯ ТРЭБА ГЭТА ВЕДАЦЬ, КАБ ЦЯБЕ ЎЗЯЛІ Ў ФЭЙБЛТАЎН.


У НАС ТУТ НЯ ТОЕ Ж, ШТО НАТУРАЛІЗАЦЫЯ Ў ЗША, КАЛІ ЗАПЫТВАЮЦЬ ПРА КАНСТЫТУЦЫЮ І ЎПАРАДКАВАННЕ ПАРЛАМЕНТА, І ТОЛЬКІ ПОТЫМ ДАЮЦЬ ГРАМАДЗЯНСТВА.
УВОГУЛЕ, ТАКІЯ ПЫТАННІ ТОЛЬКІ **ЎЗМАЦНЯЦЬ** ПАДАЗРЭННІ БОЗЛІ.


ДЫ ПЛЮНЬ ТЫ НА ГЭТАГА СТАРОГА МОНСТРА. МНЕ НАДАКУЧЫЛА КАЗАЦЬ ПРА ЯГО.
ДАВАЙ ПАГУТАРЫМ ПРА НАС І ПРА ТОЕ, ЧАМУ ТЫ **ДА ГЭТАГА ЧАСУ** НАВАТ НЕ ПАЦАЛАВАЎ МЯНЕ?

КАЛІ ТЫ НАСТОЙВАЕШ...










**ХТО** ТЫ?

Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ НЕ ЧЫРВОНЫ КАПЯ-ЛЮШЫК.

НЕ ПАВЕДАМІШ МНЕ, ШТО ТЫ З ЁЙ **ЗРАБІЛА**?

Я Ж КАЗАЛА, ШТО ЗМЯНІЛАСЯ. **СТАГОДДЗІ** ПАД КАТАВАННЯМІ...

ВОСЬ **НЯ ТРЭБА** ГЭТАГА. ПРОСТА СКАЖЫ, ХТО ТЫ, ПАКУЛЬ Я ЦЯБЕ НЯ ВЫДАЎ.

І ШТО ГЭТА ЗА МЕСЦА?






ЗАСТРЭЛІЦЬ МНОСТВАМ **КУЛЬ**?

СТРАЛКОВЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ?

ПАКУЛЬ НЕ.

Я ЖАДАЮ ДРОБНА ПАСЯЧЫ ЯГО І ЗВАРЫЦЬ У СТУПЕ.

ЗРАБІЦЬ З ЯГО ЕЖУ?

ЗНЯВАГА, НАВАТ ТАК.

АЛЕ СПАЧАТКУ МНЕ ТРЭБА ЯГО ДАПЫТАЦЬ... ПАДРАБЯЗНА І НЕ ТАКІМ ПРЫЕМНЫМ СПОСАБАМ, ЯК ЗАДУМВАЛАСЯ СПАЧАТКУ.

Далей:
Злыдні